Праваабарончы цэнтр «Вясна»

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў 2018 годзе

## Аналітычны агляд

spring96.org

**ВЫСНОВЫ**

- *нягледзячы на зніжэнне агульнага ўзроўню рэпрэсій у краіне ў параўнанні з папярэднім годам, сістэмных зменаў у галіне грамадзянскіх і палітычных правоў, у першую чаргу на заканадаўчым узроўні, накіраваных на якаснае паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі на працягу 2018 года не адбылося;*
- *падаўшы справаздачу ў КПЧ ААН аб выкананні палажэнняў МПГПП ўпершыню за апошнія 20 гадоў, Рэспубліка Беларусь цалкам ліквідавала запазычанасць перад дамоўнымі органамі ААН. Аднак адмова дзяржавы ад выканання меркаванняў, прынятых КПЧ па індывідуальных зваротах грамадзян Беларусі, а таксама іншых працэдур, у тым ліку тэрміновых, Камітэта сведчыць аб выбіральнасці супрацоўніцтва Беларусі з ААН і невыкананні ў поўным аб'ёме добраахвотна ўзятых краінай абавязацельстваў у галіне правоў чалавека;*
- *нягледзячы на адсутнасць цягам 2018 г. значных грамадска-палітычных падзей у краіне, улады працягвалі практыку палітычна-матываванага крымінальнага пераследу грамадзян. Па дадзеных ПЦ "Вясна", на працягу 2018 г. гэты від рэпрэсій ўжываўся ў дачыненні да 18 грамадзян. 15 з іх былі абвінавачанымі па т.зв. справе «БелТА», крымінальнай справе, узбуджанай па ч. 2 арт. 349 КК Рэспублікі Беларусь (несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, які пацягнуў прычыненне істотнай шкоды) у дачыненні да шэрагу журналістаў і рэдактараў шэрагу незалежных СМІ, а таксама актывісты незалежнага прафсаюзу РЭП Генадзь Фядыніч і Ігар Комлік, дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай, абвінавачаныя па ч. 2 арт. 243 КК (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры);*
- *на працягу года крымінальны пераслед у дачыненні да 14-ці фігурантаў справы «БелТА» быў спынены з прыцягненнем іх да адміністрацыйнай адказнасці. Аднак крымінальная справа, узбуджаная па ч. 2 арт. 425 Крымінальнага кодэксу (бяздзейнасць службовай асобы) у дачыненні да галоўнага рэдактара TUT.BY Марыны Золатавай засталася адкрытай. Г.Фядыніч і И.Комлік былі асуджаныя да абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу тэрмінам на 4 гады без канфіскацыі маёмасці і з забаронай займаць кіруючыя пасады на працягу 5 гадоў. Крымінальная справа ў дачыненні да А. Ліпая спынена ў сувязі з яго смерцю;*
- *на канец 2018 г. у турме працягваў знаходзіцца палітвязень Міхаіл Жамчужны, на якога на працягу года адміністрацыя калоніі працягвала аказваць ціск;*
- *у 2018 годзе істотна не змянілася становішча з правамі на асабістую недатыкальнасць, свабоду ад катаванняў, жорсткага, бесчалавечнага і зневажальнага абыходжання;*
- *на працягу года зафіксавана 184 выпадкаў прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у несанкцыянаваных сходах у дачыненні да 144 чалавек: арышты прызначаліся 21 раз, штрафы былі*

*вынесеныя ў 163 выпадках на агульную суму 4 363 базавых велічынь - 106 893,5 рублёў;*

- *на працягу года былі зафіксаваныя шматлікія выпадкі пераследу блогераў і журналістаў незалежных СМІ ў сувязі з ажыццяўленнем імі прафесійнай дзейнасці. Паводле інфармацыі ПЦ "Вясна", на працягу года былі зафіксаваныя 132 выпадкі прыцягнення 36 журналістаў да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ на агульную суму 113 092 рублі. Змены ў Закон аб СМІ, якія ўступілі ў сілу, істотна абмяжоўваюць свабоду слова і ўводзяць новыя абмежаванні ў інтэрнэт-сферы;*
- *мелі месца факты аказання ціску на праваабаронцаў у сувязі з ажыццяўленнем імі праваабарончай дзейнасці;*
- *нягледзячы на працяг дыялогу з ЕС і ПАСЕ па праблеме смяротнага пакарання і заклікі да ўвядзення мараторыя, на працягу года ў Беларусі працягвалася прымяненне гэтага віду пакарання. У 2018 г. былі вынесеныя два новыя смяротныя прысуды, а чатыры раней вынесеныя былі прыведзены ў выкананне;*
- *у Беларусі працягваюць фіксавацца парушэнні права на свабоду сумлення і веравызнання: рэлігійныя абшчыны сутыкаюцца з празмернымі патрабаваннямі пры рэгістрацыі; дзейнасць рэлігійных суполак без рэгістрацыі забаронена; закон празмерна абмяжоўвае правы вернікаў і іх аб'яднанняў без правамерных падстаў;*
- *у 2018 г. пачалося прымяненне на практыцы палажэнняў новай версіі Дэкрэта Прэзідэнта № 3 (у рэдакцыі Дэкрэта прэзідэнта № 1 ад 2018/01/12 г.). У спецыяльна створаную ў мэтах рэалізацыі Дэкрэта электронную базу былі ўнесены дадзеныя больш за 500 000 грамадзян краіны, «не занятых у эканоміцы». У 2019 годзе дадзеныя грамадзяне будуць аплачваць некаторыя віды паслуг ЖКГ (з 1 студзеня - падагрэў вады, з 1 кастрычніка - яшчэ газазабеспячэнне і цеплазабеспячэнне) у поўным аб'ёме. Акрамя іншага спецыяльна створаныя мясцовымі выканкамамі камісіі надзелены паўнамоцтвамі прымаць рашэнні аб накіраванні грамадзян «якія вядуць асацыяльны лад жыцця» ў ЛПП. Новая версія Дэкрэта выклікала крытыку з боку праваабарончых і прафсаюзных арганізацый краіны;*
- *на працягу года ў краіне актыўна ўжывалася прымусовая праца ў формах, якія сталі ўжо традыцыйнымі для Беларусі: ізаляваных у ЛПП, «абавязаных асобаў», прыцягнутых па распараджэнням мясцовых выканкамаў працоўных, навучэнцаў дзяржпрадпрыемстваў і ўстаноў да ўборкі сельгаспрадукцыі, удзелу ў суботніках і г.д.*

## I. ПАЛІТЫЧНА МАТЫВАВАНЫ КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД І ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ

На працягу 2018 г. знешнепалітычныя фактары працягвалі аказваць уплыў на сітуацыю з правамі чалавека ў краіне. Палітыка кіраўніцтва краіны, накіраваная на працяг дыялогу і паляпшэнне адносін з краінамі ЕС і ЗША, на фоне украінска-расійскага крызісу, які цалкам паглыбіўся ў апошнія гады, змушала ўлады ўстрымліваца ад жорсткіх формаў рэпрэсій у дачыненні да прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі. Аднак наяўнасць саміх рэпрэсій як такіх, у розных іх формах і праявах, сведчыць аб працягу палітыкі ўладаў па ажыццяўленню жорсткага кантролю над грамадствам у мэтах захавання «ўнутрыпалітычнай стабільнасці».

Нягледзячы на тое, што цягам 2018 г. у краіне не адбывалася якіх-небудзь грамадска значных падзей, якія аказваюць уплыў на ўнутрыпалітычную сітуацыю (выбары, масавыя выступы грамадзян і г.д.), улады краіны, тым не менш, працягвалі практыку палітычна матываванага крымінальнага пераследу грамадзян, а ў месцах пазбаўлення волі працягвалі знаходзіцца палітвязні Міхаіл Жамчужны і Дзмітрый Паліенка.

Усяго у 2018 г. палітычна матываваны крымінальны пераслед ажыццяўлялася ў дачыненні да 18 чалавек, што менш чым у папярэднім 2017 г. (40 чалавек), але больш чым ў 2016 г. (7 чалавек). Пры гэтым з усіх 18-ці чалавек, якія падлягалі крымінальнаму пераследу ў гэтым годзе, ні адзін не быў падвергнуты пакаранню ў выглядзе пазбаўлення волі. Большасць крымінальных справаў на працягу года былі спыненыя да суда, а двое былі асуджаныя судом да пакарання, не звязанага з пазбаўленнем волі (абмежаванне волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу); вытворчасць па адной крымінальнай справе працягваецца. У гэтым тэндэнцыі 2018 г. падобныя з сітуацыяй 2016 г.

Асноўная колькасць тых, хто падпаў пад рэпрэсіі прадстаўлялі фігуранты т.зв. «Справы БелТА» - 15 журналістаў і рэдактараў СМІ, у тым ліку такіх вядучых медыя-рэсурсаў краіны, як інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН» і інтэрнэт-партал TUT.BY.

Падставай да ўзбуджэння крымінальнай справы паслужыла заява ў СК кіраўніцтва дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва «БелТА» аб неаплачаным доступе і выкарыстанні журналістамі некаторых выданняў інфармацыі агенцтва з закрытай платнай рассылкі.

7-9 жніўня ў рэдакцыях TUT.BY, інфармагенцтва БелаПАН, іншых СМІ, а таксама ў кватэрах журналістаў адбыліся ператрусы, падчас якіх былі канфіскаваныя асабістыя і службовыя кампутары і іншыя носьбіты інфармацыі. 7 жніўня Следчы камітэт Беларусі афіцыйна заявіў аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч. 2 арт. 349 КК Рэспублікі Беларусь (несанкцыянаваны доступ да кампутарнай інфармацыі, здзейснены з іншай асабістай зацікаўленасці, які пацягнуў прычыненне істотнай шкоды).

Былі затрыманыя галоўная рэдактарка TUT.BY Марына Золатава, рэдактаркі партала Ганна Калтыгіна, Галіна Уласік і Ганна Ермачонак, галоўная рэдактарка БелаПАН Ірына Леўшына і міжнародная аглядальніца БелаПАН Таццяна

Каравянкова, карэспандэнт Deutsche Welle Паўлюк Быкоўскі, рэдактар сайта газеты "Беларусы і рынак" Аляксей Жукаў. Усе яны правялі па трое сутак у ізалятары часовага ўтрымання. Пасля вызвалення большасці падазраваных быў забаронены выезд з краіны.

Асаблівы рэзананс у СМІ атрымала заява журналіста TUT.by Дзмітрыя Бобрыка пра пагрозы і ціск на яго. Паводле яго слоў, у час знаходжання ў Следчым камітэце пад пагрозай выдачы інфармацыі аб асабістым жыцці і шляхам пагроз у адрас яго родных ён быў вымушаны падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве. Пры гэтым прадстаўнікі Следчага камітэта адмаўлялі сваё дачыненне да агучаных фактаў.

ПЦ "Вясна" з самага пачатку расцэньваў дзеянні ўладаў як празмерныя і непрапарцыйныя, якія груба парушаюць свабоду выказвання і дзейнасць незалежных СМІ. Журналістаў і рэдакцыі падтрымалі Еўрасаюз, Савет Еўропы, ЗША, а таксама нацыянальныя і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі.

5 лістапада былі прад'яўленыя абвінавачванні па ч. 2 арт. 349 КК некаторым падазраваным журналістам. Мера стрымання была абраная ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах. Пазней, на працягу лістапада, крымінальны пераслед у дачыненні да чатырнаццаці фігурантаў справы быў спынены з прыцягненнем іх да адміністрацыйнай адказнасці.

У той жа час, 22 лістапада галоўнай рэдактарцы TUT.BY Марыне Золатавай было прад'яўленае абвінавачванне па ч. 2 арт. 425 Крымінальнага кодэкса (бяздзейнасць службовай асобы), якая ў санкцыі прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да пяці гадоў. Такім чынам, М. Золатава застаецца адзінай фігуранткай т.зв. «Справы БелТА».

Асаблівы рэзананс у 2018 г выклікаў працяг пераследу па узбуджанай у мінулым годзе крымінальнай справе ў дачыненні да старшыні незалежнага прафсаюзу РЭП Генадзя Фядыніча і старшыні Мінскай гарадской арганізацыі і бухгалтара гэтага прафсаюза Ігара Комліка.

Крымінальная справа ў дачыненні да прафсаюзных актывістаў была ўзбуджана 2 жніўня 2017 г. у ч. 2 арт. 243 КК Рэспублікі Беларусь (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры). У той жа дзень раней затрыманы органамі следства Генадзь Фядыніч быў вызвалены, а Ігар Комлік затрыманы і знаходзіўся пад вартай. 10-11 жніўня ім былі прад'яўленыя афіцыйныя абвінавачванні. Паводле інфармацыі Следчага камітэта, Генадзь Фядыніч і Ігар Комлік мелі рахунак у Літве, на які ў 2011 годзе ад нерэзідэнтаў Беларусі паступалі грошы ў замежнай валюце агульным памерам 140 тысяч еўра. Па разліку Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю, сума нявыплачаных падаткаў склала 22 867,1 рубля.

3 жніўня 2017 г. праваабарончыя арганізацыі Беларусі заявілі, што лічаць Ігара Комліка палітвязням і звязваюць пераслед прафсаюзных лідэраў з іх актыўнай прафсаюзнай дзейнасцю і ажыццяўленнем права на свабоду асацыяцыі. Затрыманне лідэраў незалежных беларускіх прафсаюзаў выклікала істотны міжнародны рэзананс. Глабальны саюз IndustriALL і Міжнародная канфедэрацыя прафсаюзаў заклікалі ўлады Беларусі спыніць пераслед Генадзя Фядыніча і Ігара

Комліка. Акрамя гэтага, з заявай выступіла Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў, партнёрская праграма FIDH і Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў (OMCT), якая таксама заклікала беларускі ўрад зняць усе абвінавачванні з Ігара Комліка і спыніць крымінальны пераслед лідэраў прафсаюзных арганізацый за іх мірную дзейнасць. З заявай з патрабаваннем зняць усе абвінавачванні з Ігара Комліка і Генадзя Фядыніча выступіла вядомая шведская праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders.

2 кастрычніка 2017 г. Ігара Комліка вызвалілі з СІЗА № 1 Мінска ў сувязі са зменай меры стрымання на падпіску аб нявыездзе.

Разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да актывістаў незалежнага прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка пачаўся ў судзе Савецкага р-на г. Мінска 30 ліпеня 2018 г. Прадстаўнікі ПЦ "Вясна", а таксама прадстаўнік FIDH з самага пачатку судовага працэсу праводзілі яго маніторынг.

24 жніўня ў дачыненні да прафсаюзных лідэраў вынесены абвінаваўчы прысуд на падставе ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адказнасць за ўхіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры. Лідэры прафсаюза прысуджаныя да абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу тэрмінам на 4 гады без канфіскацыі маёмасці і з забаронай займаць кіруючыя пасады на працягу 5 гадоў.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі заклікалі ўлады да перагляду вынесенага прысуду і спынення крымінальнага пераследу ў дачыненні да лідэраў незалежнага прафсаюзу. З аналагічнымі заявамі выступіў і шэраг міжнародных праваабарончых і прафсаюзных арганізацый.

9 лістапада Менскі гарадзкі суд, разгледзеўшы апеляцыйныя скаргі кіраўнікоў прафсаюза РЭП Г. Фядыніча і І. Комліка, пакінуў прысуд суда Савецкага раёна ў сіле. Такім чынам, вынесены ў дачыненні да іх прысуд уступіў у законную сілу.

Маніторынг адкрытага разгляду крымінальнай справы ў дачыненні да лідэраў прафсаюза Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка выявіў грубыя парушэнні стандартаў справядлівага суда, якія ў сваёй сукупнасці прывялі да незаконнага, палітычна матываванага прысуду.

Акрамя таго, крымінальная справа ў дачыненні да Г. Фядыніча і І. Комліка яшчэ раз яскрава прадэманстравала існуючую праблему доступу няўрадавых арганізацый да фінансавання, у тым ліку і замежнаму. Адсутнасць магчымасці легальнага атрымання такой дапамогі робіць няўрадавыя арганізацыі вельмі ўразлівымі перад спецслужбамі краіны, якія ў любы момант могуць абвінаваціць практычна любую незалежную няўрадавую арганізацыю ў нелегальным атрыманні грашовых сродкаў або нібыта ў атрыманні такіх сродкаў.

Дадзены аспект дзейнасці НДА і ўяўляе асаблівую цікавасць органаў КДБ, што ўжо было прадэманстравана раней у крымінальнай справе А. Бяляцкага. Менавіта ў мэтах атрымання інсайдэрскай інфармацыі аб магчымым замежным фінансаванні КДБ ўкараняў свайго агента ў прафсаюз РЭП.

Падобнай на справу актывістаў прафсаюза РЭП была крымінальная справа, узбуджаная ў дачыненні да галоўнага рэдактара незалежнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алеся Ліпая.

Раніцай 14 чэрвеня ў кватэры, у якой пражываў дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай, супрацоўнікамі ДФР ў рамках узбуджанай Камітэтам дзяржаўнага кантролю крымінальнай справы быў праведзены санкцыянаваны пракуратурай горадаператрус. Пасля ператрусу Алесь Ліпай быў дастаўлены супрацоўнікамі ДФР на допыт у будынак КДК, пасля чаго адпушчаны на волю.

Пазней на сайце Дзяржкантролю з'явілася інфармацыя аб тым, што ў дачыненні да Алеся Ліпая 12.06.2018 г. была ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 243 КК па факце ўхілення ад выплаты падаходнага падатку ў асабліва буйным памеры. Алесь Ліпай з'яўляўся падазраваным па гэтай крымінальнай справе. А. Ліпай знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе. 23 жніўня 2018 г. Алесь Ліпай памёр, пазней крымінальная справа ў сувязі з гэтым было спынена.

Асобна варта адзначыць сітуацыю з палітычнымі вязнямі.

На працягу 2018 г. у месцах пазбаўлення волі знаходзіліся прызнаныя беларускай праваабарончай супольнасцю палітычнымі заснавальнік праваабарончай арганізацыі «Платформа» Міхаіл Жамчужны і сацыяльны актывіст Дзмітрый Паліенка (прызнаны вязнем сумлення міжнароднай арганізацыяй Amnesty International).

Варта адзначыць, што ЕС так афіцыйна і не прызнаў наяўнасць палітвязняў у Беларусі, нягледзячы на пазіцыю беларускай праваабарончай супольнасці і міжнародных праваабарончых арганізацый (Amnesty international у выпадку з Паліенку у прыватнасці). Пры гэтым Еўрапарламент на працягу года двойчы прымаў рэзалюцыі па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, у якіх паказваў М. Жамчужнага і Д. Паліенку ў якасці палітвязняў.

17 ліпеня 2018 г. прадстаўнікі ПЦ "Вясна" і 10 іншых праваабарончых арганізацый звярнуліся са зваротам аб памілаванні Міхаіла Жамчужнага на адрас кіраўніка дзяржавы А.Р. Лукашэнкі.

У Адміністрацыі прэзідэнта разгледзелі зварот і ўказалі, што пытанне памілавання асуджанага М. Жамчужнага можа быць разгледжана толькі па яго асабістым хадайніцтве. Улічваючы прававую практыку, якая склалася па пытанні вызвалення палітвязняў шляхам іх памілавання прэзідэнтам краіны без наяўнасці якіх-небудзь персанальных хадайніцтваў, дадзены адказ сведчыць пра нежаданне Адміністрацыі прэзідэнта вызваляць палітвязня.

24 кастрычніка пасля заканчэння тэрміну адбыцця пакарання ў папраўчай калоніі № 2 у Бабруйску Дзмітрый Паліенка выйшаў на волю.

Такім чынам на канец года ў месцах пазбаўлення волі працягвае знаходзіцца толькі адзін палітвязень - Міхаіл Жамчужны. Пры гэтым на працягу года ён падвяргаўся пастаяннаму ціску з боку адміністрацыі выпраўленчых установаў, у якіх ён адбывае пакаранне, неаднаразова змяшчаўся ў ШІЗА і ПКТ.

## II. СТАНОВІШЧА ПРАВААБАРОНЦАЎ

Нягледзячы на тое, што у 2018 годзе ў краіне не адбывалася якіх-небудзь значных унутрыпалітычных падзей, быў зафіксаваны шэраг выпадкаў пераследу альбо аказання ціску на праваабаронцаў у сувязі з іх праваабарончай дзейнасцю. У многіх выпадках гэты ціск ажыццяўляўся ў дачыненні да сябраў ПЦ "Вясна".

Пры ажыццяўленні назірання за правядзеннем несанкцыянаванага шэсця на пл. Якуба Коласа ў г. Мінску 25 сакавіка супрацоўнікамі АМАП былі затрыманыя сямёра назіральнікаў сумеснай службы назірання за масавымі мерапрыемствамі Праваабарончага цэнтру "Вясна" і РПГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт". Былі затрыманыя і дастаўленыя ў Савецкае РУУС г. Менска Максім Кавалёў, Таццяна Мастыкіна, Андрэй Крэчка, Ганна Саханкова і Наста Лойка, а Наста Васільчук была дастаўленая ў Першамайскае РУУС г. Мінска, адкуль была пазней вызвалена без складання якіх-небудзь пратаколаў. У дачыненні ж дастаўленых ў Савецкае РУУС шасці назіральнікаў былі складзеныя пратаколы па арт. 23.34 КаАП Рэспублікі Беларусь (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў), а ў дачыненні да назіральніцы Таццяны Мастыкінай яшчэ і па арт. 23.4 КаАП (непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі). Акрамя таго, у сувязі з абгрунтаванай адмовай Таццяны ад праходжання дактыласкапіі, супрацоўнікамі міліцыі ў дачыненні да яе была ўжытая грубая фізічная сіла. Варта адзначыць, што ўсе назіральнікі былі візуальна пазначаныя: мелі на сабе сінія камізэлькі з надпісам «назіральнік» на спіне і бэдж з фатаграфіяй, прозвішчам і указаннем арганізацыі, якая накіравала іх на ажыццяўленне маніторынгу падчас правядзення сходу.

Пасля ўсе затрыманыя назіральнікі і назіральніцы былі вызваленыя з РУУС пад абавязацельства аб яўцы ў суд Савецкага р-на г. Мінска 26 сакавіка, дзе ім паведамілі, што ў сувязі з непаступленні матэрыялаў спраў у суд, судовыя працэсы праводзіцца не будуць, а пра дату і часу іх правядзення ім будзе паведамлена дадаткова. Пасля ўсе адміністрацыйныя справы былі спыненыя ў сувязі са сканчэннем тэрмінаў прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці. Пры гэтым усе скаргі, якія паступілі ў органы пракуратуры, не былі задаволеныя: пракуратура не знайшла падстаў для пракурорскага рэагавання. Адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце незаконнага прымянення фізічнай сілы і незаконнай дактыласкапіі ў дачыненні да затрыманай валанцёркі ПЦ "Вясна" Таццяны Мастыкінай.

На працягу года Следчы камітэт так і не знайшоў падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў АМАП, якія нанеслі цялесныя пашкоджанні юрысту ПЦ "Вясна" Аляксею Лойку падчас налёту АМАП на офіс ПЦ «Вясна» 25 сакавіка 2017 г., і ў трэці раз адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Адным з найбольш рэзанансных выпадкаў аказання ціску на сябраў ПЦ "Вясна" стала правядзенне праверкі ў рамках КПК у дачыненні да Алеся Буракова: 8 лістапада сябар ПЦ "Вясна" Алесь Буракоў быў выкліканы на гутарку старэйшым лейтэнантам Кастрычніцкага РУУС г. Магілёва Паўлам Катом. Нагодай стала распачатая праверка ў рамках крымінальнага працэсу па арт. 193-1 КК (незаконная арганізацыя дзейнасці грамадзкага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі

ці фонда альбо ўдзел у іх дзейнасці), паколькі, на думку супрацоўніка міліцыі, Алесь Буракоў адмініструе сайт "Правы чалавека ў Магілёве", які адносіцца да ПЦ "Вясна", які ажыццяўляе сваю дзейнасць без дзяржаўнай рэгістрацыі. Па словах супрацоўніка міліцыі, праверка была распачатая яшчэ 8 кастрычніка.

Пазней Алесь пісьмова звярнуўся з заявай у Кастрычніцкае РУУС г. Магілёва з просьбай праінфармаваць яго аб праверцы, якая праводзіцца ў дачыненні да яго і азнаёміць з матэрыяламі праверкі ў выпадку яе завяршэння. Сваім адказам ад 5 снежня начальнік аддзела ўнутраных спраў адміністрацыі Кастрычніцкага р-га г. Магілёва А.С. Сільвановіч пацвердзіў факт таго, што ў дачыненні да А. Буракова з 8 кастрычніка 2018 г. праводзіцца праверка «па факце магчымага ажыццяўлення адміністравання і інфармацыйнага напаўнення інтэрнэт-партала http://mspring.online/, які з'яўляецца рэгіянальнай структурай незарэгістраванай арганізацыі «Праваабарончы цэнтр "Вясна». Таксама ў адказе паведамлялася, што на дадзены момант праверка прыпыненая да атрымання вынікаў экспертызы.

У сувязі з гэтым ПЦ "Вясна" і Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў прынялі заяву з асуджэннем дзеянняў уладаў у дачыненні да члена ПЦ "Вясна" Алеся Буракова і патрабаваннем неадкладнага спынення пачатых у дачыненні да яго працэсуальных дзеянняў у рамках крымінальнага працэсу.

Варта адзначыць, што ціск на А. Буракова ў сувязі з дзейнасцю ад імя незарэгістраванага ПЦ "Вясна" ажыццяўляецца на фоне неаднаразова і шырока анансаванага ўладамі Беларусі працэсу дэкрыміналізацыі дзейнасці ў інтарэсах незарэгістраваных арганізацый і ўвядзення за гэта адміністрацыйнай адказнасці.

На працягу года таксама быў зафіксаваны шэраг выпадкаў прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці праваабаронцаў, якія ажыццяўлялі маніторынг сходаў у месцы іх правядзення, за іх удзел у несанкцыянаваных сходах.

Так, 15 верасня праваабаронцы, сябру ПЦ "Вясна" са Светлагорску Алене Маслюковай было вынесена пісьмовае пракурорскае папярэджанне. Пракурор раёна А. Яўсеенка папярэдзіў яе аб адказнасці за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, палічыўшы, што Маслюкова можа быць арганізатарам несанкцыянаванага масавага мерапрыемства: у Светлагорску 15 верасня планавалася правесці мітынг супраць працы завода па вытворчасці беленай цэлюлозы, але ўлады на гэты дзень запланавалі іншае мерапрыемства. Аднак людзі ўсё роўна сабраліся на плошчы і правялі флэш-моб супраць выкідаў завода. 9 кастрычніка, праз тры судовыя паседжанні, Алену Маслюкову аштрафавалі на 25 базавых велічыняў (612,50 рублёў).

1 кастрычніка Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў распаўсюдзіла тэрміновы зварот, у якім заклікала зняць усе абвінавачванні супраць светлагорскіх актывістаў.

Аналагічная сітуацыя адбылася з праваабаронцам Раманам Кісляком ў г. Брэсце. Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў таксама заклікала ўлады Беларусі пакласці канец любым формам пераследу, у тым ліку на судовым узроўні, супраць Рамана Кісляка.

23 лістапада суд Свіслацкага раёна вынес пастанову аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным

масавым мерапрыемстве) у выглядзе штрафу ў памеры 15 базавых велічынь (367,5 руб.) сябра ПЦ "Вясна" з Гародні Віктара Сазонава.

27 кастрычніка ў Свіслачы традыцыйна сабраліся актывісты, каб ушанаваць памяць паўстанцаў 1863 года. Людзі ўскладалі кветкі да магілы Віктара Каліноўскага на Свіслацкіх могілках, да помнікаў нацыянальным героям ў самой Свіслачы і Якушоўцы, дзе была сядзіба Каліноўскіх. Запальвалі свечкі, расказвалі пра гераічныя падзеі мінулых часоў. Сам Віктар Сазонаў адзначае, што ў бягучым годзе прысутнічаў у Свіслачы як назіральнік і праваабаронца, каб адсачыць дзеянні ўладаў і сілавікоў, паколькі ўдзельнікі гэтай акцыі рэгулярна падвяргаліся пераследу.

У цэлым на працягу года назіраўся некаторы адыход ўлады ад жорсткай канфрантацыйнай лініі паводзін у дачыненні да ПЦ "Вясна".

Раней намеснік міністра МЗС Валянцін Рыбакоў публічна заяўляў пра тое, што прадстаўнікі ПЦ "Вясна" ніколі і ні ў якой якасці, ні ў асабістай, ні як прадстаўнікі арганізацыі, не будуць прымаць удзел у мерапрыемствах з удзелам беларускага МЗС. Аднак на працягу 2018 г. прадстаўнікі арганізацыі некалькі разоў прымалі ўдзел у мерапрыемствах, якія арганізуюцца МЗС і іншымі дзяржаўнымі органамі краіны.

Так, 20 красавіка прадстаўнік арганізацыі, юрыст Павел Сапелка прыняў удзел у кансультацыях экспертнага ўзроўню «Практыка ўзаемадзеяння з дагаворнымі органамі па правах чалавека». Мерапрыемства было арганізавана Міністэрствам замежных спраў у супрацоўніцтве з ПРААН у Рэспубліцы Беларусь і праводзілася ў рамках выканання Міжведамаснага плана па рэалізацыі рэкамендацый, прынятых Беларуссю па выніках праходжання другога цыклу універсальнага перыядычнага агляду ў Савеце ААН па правах чалавека, і рэкамендацый, адрасаваных дзяржаве дагаворнымі органамі па правах чалавека.

18 красавіка 2018 г. прадстаўнікі арганізацыі - юрыст Павел Сапелка і каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда ў якасці экспертаў прынялі ўдзел у працы круглага стала па праблематыцы смяротнай кары, арганізаванага рабочай групай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання, як інструмента пакарання, які ўжываецца ў Рэспубліцы Беларусь, сумесна з Радай Еўропы.

6 сакавіка Валянцін Стэфановіч прыняў удзел у пашыраным пасяджэнні рабочай групы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дапрацоўцы праекта Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы па пытаннях правядзення масавых мерапрыемстваў". На пасяджэнне парламенцкай групы акрамя дэпутатаў парламента былі запрошаныя прадстаўнікі Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў, прадстаўнікі ўпраўленняў МУС і МЗС, а таксама прадстаўнікі шэрагу арганізацый, прычым, як незалежных, так і праўладных.

Разглядаючы гэта як станоўчы напрамак у наладжванні супрацоўніцтва дзяржавы і арганізацый грамадзянскай супольнасці, тым не менш варта заўважыць, што органы ўлады далёка не ў поўнай меры выкарыстоўваюць патэнцыял такіх

адносін, не прыцягваючы грамадскія аб'яднанні і іх экспертаў да выпрацоўкі і прыняцця якіх-небудзь дакументаў і рашэнняў.

У цэлым жа праблема адсутнасці дзяржаўнай рэгістрацыі ПЦ "Вясна" на працягу года заставалася нявырашанай, як і ў папярэднія 15 гадоў, якія прайшлі з моманту ліквідацыі Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна». Адсутнасць якога-небудзь рэальнага прагрэсу ў сферы свабоды асацыяцыяў, як і раней, робіць працэс рэгістрацыі арганізацыі вельмі прадказальным з адмоўным вынікам.

Такім чынам, на працягу 2018 г. узаемадзеянне праваабаронцаў з дзяржавай не насіла сістэматызаваны і пастаянны характар. У краіне так і не было створана пастаянна дзеючых дыялогавых пляцовак, як і нацыянальных праваабарончых інстытутаў у цэлым. Не стаў такой пляцоўкай ўзаемадзеяння дзяржавы з праваабарончым супольнасцю і т.зв. Нацыянальны план па правах чалавека.

## III. ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ. ПРАБЛЕМА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

На працягу 2018 г. назіралася вельмі супярэчлівая сітуацыя, звязаная з праблемай прымянення смяротнага пакарання ў краіне. З аднаго боку, улады працягвалі актыўнае ўзаемадзеянне і дыялог з ЕС, Саветам Еўропы па пытанні прымянення гэтага віду пакарання, праводзілі круглыя сталы з удзелам прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, дэпутатаў парламента, мясцовых органаў улады, грамадскіх арганізацый, замежных экспертаў, а з другога боку працягвалі прымяненне смяротнага пакарання на практыцы.

Прадстаўнікі дзяржавы працягвалі настойваць на тым, што пытанне адмены смяротнага пакарання ці ўвядзення мараторыя наўпрост залежыць ад падтрымкі дадзенага кроку грамадзянамі краіны. У сувязі з тым, што крыху больш за палову насельніцтва краіны працягвае падтрымліваць смяротнае пакаранне зараз, а раней большая частка насельніцтва падтрымала яе на агульнанацыянальным рэферэндуме ў 1996 годзе, улады заяўляюць аб немагчымасці адмены гэтага віду пакарання або ўвядзення мараторыя на дадзены момант. Пры гэтым улады не выключаюць магчымасці адмены смяротнай кары або ўвядзення мараторыя калі-небудзь у будучыні.

Працягвае сваю дзейнасць парламенцкая група Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання, як інструмента пакарання, які ўжываецца ў Рэспубліцы Беларусь. Аднак пры гэтым, як і раней, у грамадстве адсутнічае шырокая дыскусія на гэтую тэму, таксама яна практычна адсутнічае ў дзяржаўных друкаваных і электронных СМІ.

У 2018 г. судамі Беларусі былі вынесены два смяротныя прысуды і прыведзена ў выкананне чатыры раней вынесеных. Паказальна, што смяротны прысуд па крымінальнай справе ў дачыненні да Вячаслава Сухарко і Аляксандра Жыльнікава быў вынесены Мінскім гарадскім судом 20 студзеня 2018 года пры паўторным разглядзе справы. З першым прысудам не пагадзіліся ўсе бакі працэсу. Апеляцыйныя скаргі ў ВС накіравалі абвінавачаныя, іх абаронцы і пацярпелыя. Апеляцыйны пратэст на мяккасць прысуду Мінгарсуда прынесла пракуратура, нягледзячы на тое, што В.Сухарко і А. Жыльнікаву ўжо была прызначаная выключная мера пакарання - пажыццёвае зняволенне.

14 ліпеня 2017 года Вярхоўны суд адправіў справу на паўторны разгляд у суд першай інстанцыі з новым складам судовай калегіі па крымінальных справах, загадзя наперад пастанавіўшы, што пакараннем В.Сухарко і А. Жыльнікаву будзе смяротнае пакаранне.

29 мая 2018 года Вярхоўны Суд адмовіў у задавальненні апеляцыйнай скаргі А. Жыльнікава і такім чынам раней вынесены Менгарсудом прысуд уступіў у законную сілу. Менавіта падчас разгляду апеляцыйнай скаргі стала вядома аб прывядзенні ў выкананне смяротных прысудаў у дачыненні да Аляксея Міхалені і Віктара Лётава. Пра гэта ў судзе заявіў Вячаслаў Сухарко, які прысутнічаў там. З ягоных слоў, ён сядзеў з пакараным смерцю ў адной камеры і ў ноч з 15 на 16 траўня абодвух вывелі з камеры і ў яе яны больш не вярнуліся. Пазней гэтая інфармацыя была пацверджана з іншых, выклікаючых давер крыніц, акрамя таго, распаўсюджаная ў СМІ інфармацыя пра пакаранні не была аспрэчаная дзяржаўнымі органамі.

